Магістрат



«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №1(85), студзень, 2017г.

# У ВІЦЕБСКУ НА МЕСЦЫ ЯЎРЭЙСКАГА ГЕТА КОЛЬКІ ГОД НЕ ЎСТАЛЮЮЦЬ ПОМНІК АХВЯРАМ

**27 студзеня адзначаецца Міжнародны дзень памяці ахвяр Халакосту. Ён адзначаецца па рашэнні ААН у дзень вызвалення савецкімі войскамі ў 1945 годзе найбуйнейшага нацысцкага лагера смерці Асвенцым.**

У Беларусі ў 260 гета былі знішчаны больш за 800 тысяч чалавек.

Усяго за гады Другой сусветнай вайны ў нацысцкіх канцлагерах былі планамерна знішчаны 6 мільёнаў габрэяў.

У Віцебску гета знаходзілася каля Дзвіны ў квартале каля Дома металістаў, квартал абмяжоўваўся сучаснымі вуліцамі Ільінскага, Кірава, Камсамольскай і завулкам Энгельса. Было агароджана высокім драўляным плотам, калючым дротам, ахоўваўся паліцыяй і выходзіць за межы дазвалялася толькі членам утворанага ворганна самакіравання (юдэнрата), які складаўся з 7 чалавек. Мужчынаў з гета выкарыстоўвалі для цяжкіх працаў у горадзе і для абслугоўвання вайсковых частак. Да канца кастрычніка скончыліся рэчы, якія можна было памяняць на ежу, пачаўся голад, ад хваробаў і холада да канца кастрычніка 1941 года ў гета памерлі каля 5000 чалавек.

Забойства яўрэйскага насельніцтва пачаліся адразу пасьля акупацыі, забойства адбываліся на Стара-Уланавіцкіх яўрэйскіх могілках, напрыканцы ліпеня пры пераправе праз Дзвіну загінула каля 2000 яўрэяў. Напрыканцы жніўня адбылося масавае забойства ў ваколіцах Віцебска каля вёскі Себяхі у так званым Ілаўскім (Тулаўскім) рове (супрацьтанкавае ўмацаванне) больш за 600 мужчынаў-яўрэяў. Да канца 1941 года спецыяльнай часткай айнзацкамандай-9 віцебскае гета было ліквідавана – былі забіты ўсе яўрэйскія насельнікі. Па розных дадзеных у Віцебску было забіта каля 20 000 яўрэяў.



У кастрычніку 1993 года на тэрыторыі былога гета быў усталяваны памятны знак – «Здесь будет установлен мемориальный знак в память узников Витебского гетто, жертв фашистского геноцида в 1941—1944 г.». На месцы масавых растрэлаў у Ілаўскім (Тулаўскім) рове памятныя знакі былі ўсталяваныя ў 1995 і 2010 годзе.

У далёкім 2000 годзе на памятным знаку каля Дзвіны зьявіўся аркушык паперы з вершамі. Прачытайце іх і ніколі не забывайце пра ахвяраў злачынных войнаў.



**Полыхают тюльпаны**
**И несёт свои воды Двина.**
**Твою жизнь, тётя Фаня,**
**Взяла на закланье война.**

**И не выросли дети**
**- Они с мамой погибли во рву.**
**Я сегодня на свете**
**За них и дышу, и живу.**

**Нет могил и надгробий,**
**Безымянны остались в веках.**
**Догадайся попробуй,**
**Кто в тех проклятых временем рвах.**

**В страшном сне пусть не снится**
**Ужас тот не вернётся назад.**
**Помнит сердце те лица,**
**Что сегодня мне в душу глядят.**

**В поминальной молитве**
**Взлетают слова к небесам –**
**Это плач по убитым,**
**Погибшим, оставшимся там...**

**Их забыть не посмеем**
**И как эхо промчавшихся лет.**
**Пусть цветы пламенеют**
**И встаёт над рекою рассвет.**

**А.Адамаў, http://vicebskreg.by**

Магістрат
**Заснавальнік:**
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Выдавец**:
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Адказны за выпуск:**
Хведар Самагуд
**Дызайн:**
Сяржук Серабро
**Вёрстка:**
Сямён Залацец
**Дапамога:**
Віцебскі Цэнтр грамадзкіх ініцыятываў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэклямных і агітацыйных мэтах.

Тэлефоны для кантактаў: 8-029- 710-42-23, 713-22-00, 218-98-38, 711-24-47, 593-15-34, 517-32-53.




**Віцебская абласная арганізацыя Партыі БНФ: вул.Церашковай, д.11, п.№.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
E-mail: kas_vit@tut.by
**WWW.NARODNY.ORG**
VK.COM/PARTYJA_BNF
VK.COM/BNF_MOLADZ
*http://kamunikat.org/mahistrat.html*

# ЛІДАР БНФ: МЫ СУПРАЦЬ ТАГО, КАБ З ЕС У БЕЛАРУСЬ ПЕРАПРАЎЛЯЛІ БЕЖАНЦАЎ



**Стала вядома, што на працягу некалькіх гадоў у Беларусі за сродкі Еўрасаюза будуць пабудаваныя некалькі "цэнтраў размяшчэння мігрантаў". На гэтыя мэты Еўракамісія плануе выдзеліць сем мільёнаў еўра, піша нямецкая Tageszeitung. У беларускім МЗС Еўрарадые гэтую інфармацыю таксама пацвердзілі.**

Лідар Партыі БНФ **Аляксей Янукевіч** пракаментаваў для Еўрарадыё планы супрацоўніцтва беларускіх уладаў з ЕС у справе мігрантаў. Год таму БНФ актыўна пратэставала супраць магчымай пераправкі бежанцаў, якія прыязджаюць у краіны Еўрасаюза і ў Беларусь.

"Будзем сачыць за сітуацыяй. Тут ёсць вельмі шмат важных нюансаў, якія да канца не зразумелыя. Калі вядзецца пра тое, каб пабудаваць у Беларусі за грошы Еўрасаюза цэнтры, куды будзе перапраўленая частка бежанцаў, якія цяпер ужо знаходзяцца ў краінах ЕС, то гэта, на нашу думку, не адпавядае інтарэсам Беларусі і правам чалавека. Гэта не адпавядае таксама правам саміх бежанцаў. Калі гаворка ідзе пра тых, хто прыязджае ў Беларусь для атрымання прытулку, то гэта іншая сітуацыя. Тады, я думаю, наша краіна магла б нейкай колькасці такіх людзей дапамогу аказаць. У разумных межах", — перакананы Аляксей Янукевіч.

Палітык таксама дадае, што ў апошні час некаторыя заходнія палітыкі схільныя дамаўляцца з беларускімі ўладамі ледзь не таемна, не інфармуючы беларускае грамадства пра свае планы.

"Калі будзе абраны першы варыянт, то неабходна прыцягваць увагу грамадскасці, ствараць рэзананс, каб сапраўды такія перамовы не адбываліся таемна… Сёння мы крытыкуем Еўрасаюз за тое, што беларускае грамадства адчувае недахоп інфармацыі аб тым, як і на якія тэмы вядзецца дыялог Еўрасаюза з беларускімі ўладамі. Беларускія ўлады не лічаць патрэбным інфармаваць аб гэтым. А з боку некаторых прадстаўнікоў ЕС часам, можна сказаць, нават крывадушная палітыка ажыццяўляецца. Бо яны лічаць, што сваё грамадства інфармаваць варта, а беларусаў хай інфармуюць беларускія ўлады. Хаця зразумела, што гэтага не будзе", — кажа Янукевіч.

Паводле Эўрарадыё

# ЗЬМЕНЫ Ў ВЫБАРЧЫМ ЗАКАНАДАЎСТВЕ

**Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў падзяліўся з карэспандэнтам Радыё Рацыя сваімі думкамі пра тое, што ў бліжэйшы час можа быць зьмененае ў выбарчым заканадаўстве.**

«Мы будзем не проста прапаноўваць зьмены ў заканадаўства, а зьмены ў адпаведнасці з рэкамендацыямі АБСЕ», — паведаміла «Народнай Волі» старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына? — Зараз пры ЦВК працуе пазаведамасная экспертная група, якая да 1 лютага прадставіць свае прапановы кіраўніку дзяржавы. І далей усё залежыць ад таго, якія прапановы будуць прыняты».

Рыгор Кастусёў: Калі казаць пра зьмены, то не варта чакаць вялікага прарыву ў плане празрыстасці падліку галасоў. Хаця могуць увесці выбары па партыйных спісах, вось гэта абсалютна рэальна. І, па непацверджанай афіцыйна інфармацыі, улады хацелі б павялічыць прэзідэнцкі тэрмін з 5 да 7 гадоў. Хачу запэўніць – калі захочуць пайсці на такі крок, то вялікіх складанасцей усё гэта ўзаконіць не складзе для ўлады вялікай цяжкасці.

Радыё Рацыя

**ДАСЫЛАЙЦЕ АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ ГА БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ"**
**Рэквізыты: р/р 3015100147004 ААТ "Белзнешэканомбанк" філіял Мінскае аддзяленьне № 1 код 226, УНП: 100052236 "прызначэньне плацяжу" — "бязвыплатны ўзнос"**

# КРАЯЗНАЎЦА ВЫДАЎ КНІГУ «50 МУЗЭЯЎ ВІЦЕБСКУ»

**У Віцебскай абласной бібліятэцы прайшла прэзэнтацыя даведніка «50 музэяў Віцебску», складзенага краязнаўцам Мікалаем Піваварам. Гэта быў першы досьвед калектыўнага збору грошай на выданьне з дапамогай пляцоўкі ulej.by.**

Дзякуючы 95 ахвярадаўцам праект сабраў 2 100 рублёў. Гэта дазволіла ажыцьцявіць даўнюю мару, кажа аўтар:

«Ідэя прааналізаваць, колькі ж у Віцебску музэяў ёсьць сёньня і было ў ранейшыя гады, прыйшла ў 2012 годзе. Я вывучаў дзейнасьць віцебскіх краязнаўцаў, якія прычыніліся да музэйнай справы ў нашым горадзе, і тут задумаўся: а колькі ж насамрэч у Віцебску музэяў? Аказалася, што іх вельмі шмат, калі падлічыць ня толькі вядомыя ўсім краязнаўчы музэй або дом-музэй Марка Шагала. Напрыклад, 25 музэяў ёсьць толькі ў віцебскіх ВНУ, 30 — на прадпрыемствах і ў розных установах, 4 прыватныя экспазыцыі, і гэта яшчэ ня ўсё! Што важна, трапіць у гэтыя музэі можа кожны ахвотны. Але пры адной умове: калі ты ведаеш пра іх існаваньне».

Гэтай мэтай — праінфармаваць віцяблян, гасьцей гораду, а таксама ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Віцебску, — і кіраваўся Мікалай Півавар, ствараючы музэйны даведнік. Структура кнігі простая: агульная інфармацыя са статыстычнымі зьвесткамі, адрасы музэяў, фотаздымкі фрагмэнтаў экспазыцыі і кантактныя зьвесткі. Апошняе надзвычай важна, бо ня ўсе музэі на прадпрыемствах або ў навучальных установах маюць супрацоўніка, які на працягу дня чакае наведнікаў. Таму на прыватныя візыты або экскурсіі трэба дамаўляцца загадзя.

Затое экскурсантаў чакаюць сапраўдныя адкрыцьці і незвычайныя цікавосткі, пра якія ведаюць нават далёка ня ўсе мясцовыя жыхары, кажа Півавар:

«У горадзе ёсьць, напрыклад, музэй папяровай пластыкі ў сярэдняй школе № 25. Мала хто пра яго ведае, але туды можна прыходзіць зь дзецьмі, і яны будуць проста ўражаныя, колькі ўсяго можна зрабіць з паперы. А ў музэі акадэміі вэтэрынарнай мэдыцыны захоўваецца шкілет слана — гэта адзіны такі экспанат у Беларусі. У Доме культуры чыгуначнікаў ёсьць музэй зь дзейным макетам чыгункі; у каледжы, дзе вучаць на кухараў — музэй кулінарных вырабаў. Яны не ядомыя, але ісьці туды раю толькі добра пад'еўшы — настолькі натуральна і апэтытна ўсё выглядае... Я сам быў уражаны, колькі ўсяго можна паглядзець!»

Паводле краязнаўцы, у зборнік можна было ўключыць і большую колькасьць музэяў, бо іх у горадзе пад 100. Былі выбраныя самыя цікавыя, з разьлікам на турыстаў. І паколькі большасьць гасьцей прыяжджае ў Віцебск з Расеі, таму і кніга выдадзеная па-расейску.

Зрэшты, Мікалай Півавар да апошняга ня верыў, што выдаць такі даведнік за ахвяраваныя грошы наогул магчыма. «Ідэйным натхняльнікам» гэтай справы стаў віцебскі актывіст, прадстаўнік супольнасьці Vitebsk4me Раман Воранаў. Ён кажа, што неабходная сума была лёгка сабраная цягам 2-х месяцаў:

«Выдадзена 400 асобнікаў кнігі, якую ўпершыню прэзэнтавалі на сёлетнім фэсьце «Барадулінкі» — яшчэ ў якасьці праекту. Гэта першы досьвед у Віцебску, калі на выданьне зьбіралі сродкі праз краўдфандынг. Цікава, што ў ліку самых шчодрых спонсараў — былыя вучні і выхаванцы Мікалая Півавара. Ён жа ня толькі вядомы ў горадзе краязнаўца, але таленавіты пэдагог. Шмат гадоў ён выкладаў у абласной беларускай гімназіі, якая працавала ў пасёлку Лужасна. Цяжка нават уявіць, колькі кілямэтраў выхаджана падчас краязнаўчых паходаў па Лужасьнянскіх ваколіцах гімназістамі ды іхным настаўнікам гісторыі! Цяпер Мікалай Півавар навучае студэнтаў ВДУ. Апрача гэтага, ён ладзіць найцікавейшыя вандроўкі па Віцебску і ваколіцах, бярэ ўдзел у розных нефармальных культурніцкіх праектах.

Што да ўласных праектаў, то ў Мікалая Півавара настолькі багата ідэяў, што падчас прэзэнтацыі ён зьвярнуўся да прысутных па дапамогу. Маўляў, ёсьць матэрыялы сама меней для 70 выданьняў, прысьвечаных Віцебшчыне. Але, каб напісаць гэта ўсё, ня хопіць звычайнага чалавечага жыцьця. Таму краязнаўца шчыра гатовы падзяліцца — ён шукае аднадумцаў і пасьлядоўнікаў. Кажа, што гатовы як да суаўтарства, так і да перадачы сабраных матэрыялаў іншаму дасьледчыку — каб толькі краязнаўчая справа не стаяла на месцы.

Кніга «50 музэяў Віцебску» таксама далёка ня першая ў Мікалая Півавара. Праўда, ён ня можа ўдакладніць, каторая па ліку, бо ня ведае, ці лічыць выдадзеныя мэтадычныя распрацоўкі, якіх незьлічона назьбіралася за час настаўніцкай дзейнасьці. Але краязнаўца настроены напісаць яшчэ сама мала 20 кніг, якія цяпер у рознай ступені гатоўнасьці. Адну зь іх ён хацеў бы выдаць ужо сёлета — у год Скарыны, адметны паўтысячагадовым юбілеем выхаду першай беларускай кнігі ў Празе. «Малая падарожная кніжыца па Лужасьне» — такую назву прыдумаў краязнаўца для свайго чарговага зборніка, прысьвечанага мясцовасьці, дзе ён доўгі час жыў і працаваў.

svaboda.org

# 35300 БЕСПРАЦОЎНЫХ І 440000 «ДАРМАЕДАЎ». ЯК ТАК?

**Чаму «дармаедаў» больш за беспрацоўных? Пакуль «падатак на дармаедаў» сплацілі толькі 34 тысячы чалавек — у 13 разоў меней, чым было накіравана «лістоў шчасця».**

Паводле звестак Нацыянальнага статыстычнага камітэту, у эканоміцы Беларусі на снежань 2016 году было занята 4,3813 мільёна чалавек. А зарэгістраваных беспрацоўных было толькі 35,3 тысячы чалавек — гэта 0,8% эканамічна актыўнага насельніцтва.

Колькасьць зарэгістраваных беспрацоўных нават скарацілася — у лістападзе 2016-га іх было 35,8 тысячы чалавек.

Але пры гэтым за снежань звольнілі з працы на 10 тысяч чалавек болей, чым прынялі. Колькасьць звольненых перавышала колькасьць прынятых на працу 10 з 12 месяцаў 2016 года. Калі проста скласці звесткі па ўсіх месяцах, атрымаецца, што звольнілі на 108,1 тысячы чалавек больш, чым прынялі на працу.

Пры гэтым колькасьць «дармаедаў» на парадак большая: падатковыя органы накіравалі больш за 440 тысяч апавяшчэнняў пра неабходнасьць сплаціць збор на фінансаванне дзяржаўных выдаткаў. Збор вядзецца за 2015 год, калі афіцыйная колькасьць зарэгістраваных беспрацоўных называлася роўнай 43,3 тысячы чалавек.

# ЭКС-БАЕЦ «ЛНР» З ВІЦЕБСКУ НАКІРАВАНЫ НА ПСЫХІЯТРЫЧНУЮ ЭКСПЭРТЫЗУ

**Як стала вядома Свабодзе з надзейных крыніцаў у сілавых структурах Беларусі, былы баявік «ЛНР» Сяргей Трафімаў, які распавядаў пра тое, што нібыта ўдзельнічаў у забойстве ўкраінцаў у складзе групоўкі «ЛНР», падчас размовы са сьледчымі ворганамі адмовіўся ад сваіх слоў, сказаных у інтэрвію журналісту — ён заявіў, што хлусіў наконт удзелу ў баявых дзеяньнях і супрацоўніцтва з органамі дзяржбясьпекі «дзеля наданьня сабе значнасьці».**

Як расказалі Свабодзе крыніцы ў сілавых структурах, у свой час Сяргей Трафімаў самастойна паведаміў спэцслужбам, што разглядае магчымасьць выезду ва Ўкраіну дзеля аказаньня дапамогі «апалчэнцам» і прапанаваў садзейнічаньне ў атрыманьні карыснай інфармацыі. Ад гэтай прапановы прадстаўнікі ўлады адмовіліся, папярэдзіўшы, што ў выпадку паўторнага выезду ва Ўкраіну супраць яго будзе распачатая крымінальная справа. Пазьней стала вядома, што ён усё ж паехаў на Данбас. Паводле інфармацыі сілавых структураў, Трафімаў у «ЛНР» меў вайсковую спэцыяльнасьць мэханік-вадзіцель (рамантаваў танкі Т-64), а таксама сыстэматычна нёс вартавую службу аховы вайсковых аб'ектаў. Дакумэнтальных матэрыялаў, што пацьвярджаюць атрыманьне ім матэрыяльнай узнагароды за ўдзел у баявых дзеяньнях, няма. Фатаздымкі Трафімава, выкладзеныя ў сеціве, зробленыя на фоне складоў з пашкоджанай або сьпісанай зброяй, якая не зьяўляецца баявой.

Праваахоўныя органы не знайшлі падстаў для прыцягненьня Трафімава да крымінальнай адказнасьці, але ў 2016 годзе зь ім была праведзеная прафіляктычная размова з вынясеньнем афіцыйнага папярэджаньня ў сувязі зь ягоным удзелам ва ўзброеным канфлікце.

Пасьля публікацыі матэрыялу «Як былы актывіст „Зубра" і былы сябра АГП стаў баявіком „ЛНР", а потым прапанаваў свае паслугі КДБ» Трафімаў быў дапытаны сьледчымі органамі, дзе заявіў, што даў Свабодзе лжывыя зьвесткі наконт удзелу ў баявых дзеяньнях і супрацоўніцтва з органамі дзяржбясьпекі «дзеля наданьня сабе значнасьці». Пры гэтым экс-байцу «ЛНР» была прызначана судова-псыхіятрычная экспэртыза.

Паводле інфармацыі УЗ «Віцебскі абласны клінічны цэнтар псыхіятрыі і наркалёгіі», Трафімаў яшчэ з 1993 году назіраецца ў гэтым цэнтры з дыягназам «дэмэнцыя» (набытая разумовая адсталасьць), а з 2005 па 2011 год назіраўся ў нарколяга ў сувязі са шкоднымі наступствамі ўжываньня наркатычных рэчываў.

Паводле беларускага заканадаўства, удзел грамадзяніна Рэспублікі Беларусь ва ўзброеным фармаваньні аднаго з супрацьлеглых бакоў на тэрыторыі замежнай дзяржавы, а таксама ўдзел ва ўзброеным канфлікце, ваенных дзеяньнях без упаўнаважаньня дзяржавы, караюцца абмежаваньнем волі на тэрмін да пяці гадоў або пазбаўленьнем волі на тэрмін ад двух да пяці гадоў.

http://www.svaboda.org/a/28229199.html

# КАК БЕЗРАБОТНЫМ НАЙТИ ВАКАНСИЮ НА НЕСУЩЕСТВУЮЩЕМ САЙТЕ?

**Отдел по занятости населения управления по труду, занятости и социальной защите населения Витебского райисполкома даёт ссылку на несуществующую страницу.**

Сегодня основная проблема для жителей Беларуси в целом, так и Витебского района в частности это поиск рабочего места. С раннего утра в поисках вакансии многие сотни желающих найти новое рабочее место устремляются к дверям отделов по занятости населения в поисках заветного листка с списком вакантных рабочих мест. Те, кто пользуется компьютером или другими электронными устройствами предпочитают посещать сайты тех же отделов по занятости населения.

Но вот какая неприятная ситуация ожидает их на сайте Минтруда, где указаны контакты отдела по занятости населения управления по труду, занятости и социальной защите населения Витебского райисполкома. Указанный сайт http://vitebsk.vitebsk-region.gov.by/ru/kontakty не открывает искомой информации, указывает, что страница не найдена. Как говорится, сразу видно отношение властных структур к своим гражданам.

Хорошо, что есть множество других ресурсов, из которых мы узнаём, что на сегодняшний день существует 105 вакансий для организаций и предприятий Витебского района. Заработная плата от 230 рублей (и даже на 0,5 ставки 115 рублей!) до 1175 рублей как директора УП «ОксесДомИнвест». В основном обещают от 250 до 500 рублей за работу по специальности множества специалистов: директор по производству, инженер-технолог, техник по эксплуатации и ремонту оборудования, инженер по качеству, водитель автомобиля, юрисконсульт, провизор ветеринарной медицины, лаборант-микробиолог, биохимик, специалист по ценным бумагам, специалист по маркетингу, химик, администратор компьютерных сетей, начальник отдела правовой и кадровой работы на ОАО «БелВитунифарм», инженер на ОАО «Агротруд», кочегар кательной для ООО «Сварговит», инженер-методист по адаптивной физической культуре на пол ставки и специалист по социальной работе в Селютский дом-интернат, грузчик на ЧП «Мэдо», зоотехник в ОАО Липовцы«, укладчик пиломатериалов ОДО «ВитКонсар», директор сельского дома культуры, слесарь-ремонтник и тракторист-машинист на Витебскую бройлерную птицефабрику. Есть вакансии в Витебском авиацентре «Авиация», ООО «Грибоедофф», вальщика леса в Суражском лесхозе, бухгалтер в филиал «Полудетки» ОАО «Молоко», и ещё множество других.

Пожелаем всем нуждающимся в стабильной заработной плате на постоянном рабочем месте в наступившем году найти такие места, несмотря на нежелание властных сайтов информировать жителей Витебского района о существующих вакансиях в организациях и предприятиях района.

А.Адамов, http://vicebskreg.by